www.nv-online.info

№ 57 (4002)

24 ліпеня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

УЧОРА

## Калі ласка, аўтограф!




Учора, 23 ліпеня, восем ініцыятыўных груп пачалі збор подпісаў за сваіх кандыдатаў на пасаду прэзідэнта. Гэты этап выбарчай кампаніі працягнецца 30 каляндарных дзён – па 21 жніўня ўключна.

Нагадаем, што па беларускім заканадаўстве прэтэндэнтам трэба сабраць 100 тысяч подпісаў выбаршчыкаў, каб прэтэндэнт на першую пасаду ў краіне быў зарэгістраваны ў якасці кандыдата ў прэзідэнты.

Цікава, што ў першы ж дзень на вуліцы беларускай сталіцы выйшлі зборшчыкі подпісаў як за апазіцыйных кандыдатаў, так і за Аляксандра Лукашэнку.

ОФИЦИАЛЬНО

## Хотите деньгами помочь кандидату?

Физическое лицо в Беларуси в период предвыборной кампании по избранию главы государства может пожертвовать в избирательный фонд потенциального кандидата не более 20 базовых величин – или 3,6 миллиона рублей.

Об этом сообщила председатель Центризбиркома Лидия Ермошина.

ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

## Ідуць касцы...

У Беларусь прылятаў вядомы акцёр і адзін з сімвалаў французскага кіно Жэрар Дэпардзье. Два гады таму ён з Уладзімірам Пуціным тусаваўся, з Рамзанам Кадыравым, атрымаў расійскае грамадзянства. І вось цяпер прылятаў сустрэцца з Аляксандрам Лукашэнкам, паглядзець Беларусь, пакасіць траву... А на самай справе – падтрымаць імідж Аляксандра Лукашэнкі, які не толькі дзеючы прэзідэнт, але і прэтэндэнт у кандыдаты на будучых выбарах.

Культуролаг Максім Жбанкоў патлумачыў мэты такіх візітаў.

– Гэты чалавек у свой час быў надзвычай істотным для сусветнага кінематографу, але цяпер жыве на працэнты з былой рэпутацыі і цягам апошніх дзесяці год нічога сур'ёзнага ў кінематографе не зрабіў. Значыць, Дэпардзье – кінематаграфічная асоба second-hand.

– Прыняцце Жэрарам Дэпардзье расійскага грамадзянства, заявы ў падтрымку дзеянняў Пуціна, цяпер вось сустрэча з прэзідэнтам Беларусі – гэта прагматычны піяр сваёй асобы?

– Складана казаць адназначна. Але я б узгадаў, што ў свой час вельмі падобныя крокі рабіў Эмір Кустурыца, які ў кінематографе таксама быў вельмі істотнай фігурай, але ў пэўны час вычарпаў свой творчы патэнцыял.

Што да Дэпардзье, то я бачу тут чыстую прагматыку – чалавеку папросту трэба добра ўладкавацца. Ніякага піяру Жэрару Дэпардзье не трэба... У тым, што ён сустракаецца з Лукашэнкам, падтрымлівае Пуціна, я бачу сантымент да камуністычнай ідэі і савецкага ладу жыцця. Справа ў тым, што ў 1960-я гады яго меў шмат хто сярод замежных дзеячаў культуры. Яны таксама лічылі сябе сябрамі Савецкага Саюза. Я не выключаю, што Дэпардзье, які таксама шасцідзясятнік паводле складу свядомасці, захаваў сантымент такога кшталту, які ён спалучае з пошукамі асабістай выгады.

ЛОЗУНГІ

## А што сказаць?

**«За будучыню незалежнай Беларусі»** – лозунг перадвыбарнай кампаніі Аляксандра Лукашэнкі. Па крайняй меры менавіта пад ім вядзецца збор подпісаў за вылучэнне яго кандыдатам у прэзідэнты.

Лозунг кіраўніка Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі – **"Мільён новых працоўных месцаў"**.

"Па статыстыцы, беларуская эканоміка за год згубіла каля 75 тысяч працоўных месцаў, – тлумачыць кіраўнік выбарчага штабу Лябедзькі эканаміст Леў Марголін. – І гэта толькі пачатак, гэты працэс будзе толькі нарастаць. Для таго, каб згубіць мільён працоўных месцаў, ужо не спатрэбіцца 15 год. Я думаю, што калі нічога не рабіць, то ў Беларусі застануцца лічаныя працоўныя месцы. Людзі вымушаны будуць шукаць работу недзе за мяжой і перасылаць сюды сваім сем'ям, сваім бацькам, дзецям грошы".

Такім чынам, Лябедзька – за кардынальныя змены ў палітыцы і ў эканамічным курсе краіны.

Таццяна Караткевіч пакуль уцямна свой перадвыбарны лозунг не сфармулявала. На яе плакатах ёсць толькі адно слова **"Так!"**.

Паколькі яна – вылучэнец кааліцыі "Народны рэферэндум", ясна, што маецца на ўвазе падтрымка выбаршчыкамі гэтай ідэі як галоўнай выбарчай ідэі Караткевіч.

Іншыя прэтэндэнты на прэзідэнцкую пасаду пакуль перадвыбарных лозунгаў не сфармулявалі.

ГРОШЫ



## Запасы знікаюць...

Цяперашні ўзровень золатавалютных рэзерваў Беларусі з'яўляецца трывожным. Такая ацэнка зроблена ў новым аглядзе цэнтра макраэканамічных даследаванняў расійскага «Сбербанка».

*«Паводле вынікаў чэрвеня агульны аб'ём золатавалютных рэзерваў Беларусі складаў 4,6 мільярда долараў, ён зменшыўся на 1,8 мільярда долараў за апошнія 12 месяцаў. Пры гэтым рэзервы ў замежнай валюце складаюць усяго 1,7 мільярда долараў»,* – канстатуюць расійскія аналітыкі.

Яны таксама звяртаюць увагу на тое, што найбліжэйшым часам Беларусь ажыццявіць значныя выплаты па знешнім доўгу (прыкладна 1 мільярд долараў). Гэта «робіць далейшае зніжэнне ЗВР вельмі верагодным».

## ...І не рваліся

Фарміраванне тэрытарыяльных выбарчых камісій скончана. Падчас гэтага этапу выбарчай кампаніі выразна акрэсліліся дзве тэндэнцыі.

Першая – дэмакратычныя партыі і грамадскія арганізацыі сёлета, параўнальна з выбарамі 2010 года, вылучылі амаль удвая менш прэтэндэнтаў у тэрытарыяльныя камісіі.

Другая – улады па-ранейшаму ўводзяць у склад камісій толькі лічаных прадстаўнікоў апазіцыі.

Кіраўнікі апазіцыйных партый звычайна кажуць, што факусіруюць увагу на ўчастковых камісіях. Маўляў, там правяраюць бюлетэні і лічаць галасы. І таму ўчастковыя камісіі больш важныя за тэрытарыяльныя. Аднак каб прозвішча кандыдата на прэзідэнта трапіла ў бюлетэнь, трэба спачатку набраць як найменей 100 тысяч подпісаў выбаршчыкаў у ягоную падтрымку. А іх якасць якраз правяраюць тэрытарыяльныя камісіі.

Дык чаму апазіцыянеры асабліва і не імкнуліся трапіць у тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі?

– «Нашы партыі ператварыліся ў карлікавыя структуры. Ім не хапае людзей, – лічыць палітолаг **Уладзімір Роўда**. – Яны скардзяцца на тое, што рэжым увесь час застаецца жорсткім, да партыйных актывістаў стаўленне негатыўнае. Гэта сапраўды так. І калі такая рэальнасць сапраўды існуе, то людзі, якія раней звязвалі свой лёс з партыямі, шукаюць іншую нішу. І ўсе партыі закрануты гэтай „хваробай".

На мой погляд, у гэтай сітуацыі ёсць толькі адны лекі. Паколькі рэжым у Беларусі такі аўтарытарны і жорсткі, чаму не стварыць адну арганізацыю? Якой у свой час быў Беларускі Народны Фронт. І які перамог камуністычную партыю. Трэба ўсім аб'яднацца і стварыць адзіную дэмакратычную арганізацыю, падобную да ранейшага БНФ.

КОМПЕТЕНТНОЕ МНЕНИЕ

## От редакции

**На сегодняшний день для нас, журналистов «Народной Воли», одна из самых сложных тем, пожалуй, украинская. Какой материал ни напечатаем – одним нравится, другие возражают. Плюрализм не всегда приводит к консенсусу.**

**На этот раз мы решили предложить вниманию читателей не очередную статью кого-либо из наших собственных корреспондентов в Украине, не публикацию политолога и не письмо, присланное в редакцию с пометкой «Прошу напечатать», а интервью с человеком, который, уверены, уважаем во всех кругах белорусского общества. Своей мудростью, компетентностью глубоким проникновением в проблемы он в определенной мере сравним с российским Евгением Примаковым.**

**Василий Михайлович Шлындиков – экс-президент машиностроительного концерна «Амкодор», председатель комиссии Верховного Совета Беларуси 13-го созыва по экономической политике и реформам. Оставив много лет назад государственную службу, он остро переживает за то, что происходит в стране, за ее будущее. Его весьма и весьма аргументированные размышления на экономические темы не раз находили отражение на страницах «Народной Воли».**

**Сегодняшнее обстоятельное интервью Василия Михайлович Шлындикова, связанное с украинской темой, полагаем, привлечет внимание как тех, кто солидарен с народом соседней страны, отстаивающим ценой крови независимость и свободу, право на политический выбор пути развития государства, так и тех, кто в печальных событиях, которые, к сожалению, имеют место в Украине, ищет какой-то «американский след».**

# Страдания и надежды Украины

***На вопросы «Народной Воли» отвечает Василий ШЛЫНДИКОВ, экс-президент машиностроительного концерна «Амкодор», председатель комиссии Верховного Совета Беларуси 13-го созыва по экономической политике и реформам.***

**– Василий Михайлович, вы, конечно же, интересуетесь событиями в Украине. Хотелось бы услышать мнение опытного человека о результатах работы за год президента Петра Порошенко. Что изменилось у соседей за это время, каких еще перемен следует ожидать в недалеком будущем?**

– Прежде чем подводить итоги работы новой украинской власти и Петра Порошенко в частности, следует напомнить, какую Украину они получили. Итак, на момент избрания нового президента Россией был аннексирован Крым, оккупирована часть территории Донецкой и Луганской областей. Эти три «горячие точки» показали, что страну довели до такого состояния, что в них фактически не осталось боеспособной армии, организованной милиции. Полностью была разложена Служба безопасности. Правоохранительные органы вместо охраны государства и защиты населения (своих прямых обязанностей) обслуживали и охраняли властную верхушку, использовали служебные полномочия для личной наживы.

В итоге все без исключения государственные органы были превращены в частные коммерческие предприятия. Коррупция расцвела махровым цветом. Заведующие детскими садами брали взятки за устройство детей, то же делали директора школ, ДАИ (аналог нашего ГАИ) собирала мзду с водителей и значительную часть передавала вышестоящим начальникам, в том числе на самый верх. В прессе даже была озвучена цифра такой дани. Начальник ДАИ г.Киева якобы имел в месяц неофициальный доход в размере 200.000 долларов США.

Казнокрадство стало системным. Расплачивались за такой грех только неугодные властям люди. Все остальные откупались и продолжали заниматься поборами. Словом, крали не стесняясь. Если говорить коротко, то государство превратилось в клубок мафиозных структур. Неслучайно все закончилось так, как закончилось: Майдан, бегство вороватого президента Януковича...

Из-за агрессии России Украина потеряла свой ключевой рынок. Особенно рынок машиностроительной отрасли. Огромные предприятия остались без заказов. Я видел такую ситуацию после распада СЭВ в Польше, Чехословакии, Венгрии. Помню, идешь по огромным пустым корпусам завода в Словакии и думаешь: не дай бог нам пережить такое! Украина это переживает сегодня. И переживет – я в этом не сомневаюсь.

Что еще нужно сказать, отвечая на ваш вопрос? На внешних рынках в последние годы Украина активно занимала деньги, которые потом были успешно проедены и разворованы. За них не построены новые дороги и предприятия. За эти займы не сделано ничего. Остались только огромные долги, возвращать которые должны новые украинские власти.

**– Но уже год, как в Украине новая власть. После Майдана в стране проведены выборы в Верховную Раду, избран новый президент страны. Что им удалось сделать за это время?**

– Первое – удалось стабилизировать макроэкономическую ситуацию. Оздоровлена банковская система (около 50 банков прекратили свою деятельность). Вдвое девальвирована национальная валюта, хотя могло быть и хуже. На Россию никто не нападал, но там тоже почти вдвое девальвирован рубль. В отличие от Греции и несмотря на войну, Украина имеет небольшой профицит бюджета.

Второе – остановлен агрессор. За короткий срок создана 250-тысячная армия Украины, которая сегодня неплохо оснащается. За счет проведения мобилизаций и ротаций военнослужащих проводится серьезная подготовка мужской части населения к возможному расширению российской агрессии. В недалеком будущем Украина может противопоставить агрессору и 300.000, и 500.000, и более подготовленных и обстрелянных бойцов. Тем более что военно-промышленный комплекс страны способен обеспечить свою армию самым необходимым и современным вооружением.

И, пожалуй, главное – сегодня народ Украины, как никогда, сплочен. Людей, готовых пойти на жертвы ради своей страны, очень много. Отсюда и добровольческие батальоны и волонтерское движение, которое помогло оснастить и обеспечить всем необходимым бойцов на фронте. Россия благодаря Путину на многие годы, если не десятилетия, потеряла дружественную страну. Люди поняли, что их сосед сегодня – не старший брат, а безжалостный грабитель. Стало ясно, что очень многие россияне, благодаря путинской пропаганде, гордятся тем, что обычно у нормальных людей вызывает стыд и отвращение. Путин открыл глаза на настоящую Россию не только всему миру, но прежде всего своим соседям – тем, кто считал россиян братьями. Как же надо себя вести, чтобы сосед (Украина) начал отгораживаться от России, как от чумы, стеной?!

***(Окончание на 2-й стр.)***

МАЛАЙЦЫ!

## БАТЭ выйшаў у наступны раўнд Лігі чэмпіёнаў

Барысаўскі БАТЭ з напругай, але прайшоў другі кваліфікацыйны раўнд футбольнай Лігі чэмпіёнаў.

У гасцявым паядынку з ірландскім "Дандолкам" чэмпіён Беларусі дамогся нулявой нічыёй. Гэтага сталася дастаткова для выхаду ў наступную стадыю турніру.

Нагадаем, што дома ў першым матчы барысаўчане перамаглі 2:1. У гасцявой сустрэчы на сінтэтычным полі БАТЭ меў значную перавагу (18–3 па ўдарах), але так і не здолеў забіць. Добра, што не прапусцілі...

УДАКЛАДНЕННЕ

## Барыс Кіт перакрочыў 100-гадовы жыццёвы парог пяць гадоў таму

Аб гэтым "Народная Воля" пісала зусім нядаўна, падчас яго 105-годдзя.

На жаль, у мінулым нумары, віншуючы спадара Антона Шукелойця, шырока вядомага ў беларускім замежжы і на Бацькаўшчыне грамадска-палітычнага і культурна-грамадскага дзеяча, з яго 100-годдзем, з падачы прадстаўніцы беларускай дыяспары ў ЗША Ганны Сурмач заніжаны на два гады ўзрост Б.Кіта.

Прыносім прабачэнне шаноўнаму Барысу Уладзіміравічу і чытачам газеты.

**Рэдакцыя.**

ІНІЦЫЯТЫВА

## Адкуль у Беларусі «наркабароны»?

У Гродне прайшоў сход сваякоў маладых людзей, якія былі асуджаны на пазбаўленне волі за наркотыкі і спайс паводле артыкула 328 Крымінальнага кодэкса. Было вырашана стварыць аргкамітэт, каб змагацца за паляпшэнне ўмоў утрымання і за скарачэнне тэрмінаў зняволення.

На сходзе было дзесяць чалавек, пераважна маці зняволеных. Яны плануюць накіраваць зварот да прэзідэнта і генеральнага пракурора. У сходзе ўдзельнічалі жыхары Гродна, Ліды і Ваўкавыска. Яшчэ з двух гарадоў не паспелі прыехаць, але згоду ўдзельнічаць у новай грамадскай арганізацыі далі.

Маці зняволеных не могуць адмаўляць: сыны вінаватыя, што ўжывалі наркотыкі. Але следства, на іх думку, павінна ўлічваць ступень учынку, яго грамадскую небяспеку. Тэрміны зняволення – восем, дзесяць, адзінаццаць гадоў – удзельнікі сходу лічаць занадта жорсткімі. Следства, на іх думку, імкнулася знайсці абцяжарваючыя абставіны, каб узмацніць віну. Напрыклад, прыяцелі ў інтэрнэце дамаўляюцца пра пакупку нейкага наркатычнага рэчыва, пра аплату, і той, хто купляе на ўсіх, абвяшчаецца потым «наркабаронам», хоць ён не быў распаўсюджвальнікам у прамым значэнні гэтага слова, мяркуюць жанчыны.

Бацькі перакананы: неабходна пераглядаць прысуды, калі выяўляюцца новыя абставіны справы, калі ў калоніі сын паводзіць сябе станоўча. Але гэтага не робіцца.

Па-другое, лічаць удзельнікі сходу, неабходна ўжываць адносна такіх асуджаных амністыю, умоўна-датэрміновае вызваленне. Аднак чаканая з нагоды 70-годдзя перамогі ў вайне амністыя не закранула іхніх сыноў.

Родныя зняволеных не трацяць апошняй надзеі і са сваёй бядой звернуцца да самага высокага начальства.

БЕЛАРУСЬ–ЕЎРОПА

## Не абмяркоўваецца

Пытанне аб аднаўленні працы ў Мінску офіса АБСЕ не абмяркоўвалася ў ходзе візіту ў Беларусь старшыні АБСЕ Івіцы Дачыча, паведаміў прэс-сакратар МЗС Беларусі Дзмітрый Міронччык.

*«Наколькі мне вядома, такое пытанне ўвогуле не ставіцца»,* – сказаў ён.

Нагадаем, у канцы снежня 2010 года беларускімі ўладамі было прынята рашэнне аб закрыцці офіса АБСЕ. Яно было «абумоўлена адсутнасцю аб'ектыўных падстаў для захавання місіі АБСЕ ў Беларусі», заявіў тагачасны прэс-сакратар МЗС Андрэй Савіных.

Афіцыйна офіс АБСЕ ў Мінску спыніў працу 31 сакавіка 2011 года. Місія АБСЕ працавала ў Беларусі з 1998 года.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Віны не прызнае, грошы не вяртае

Адзін з самых паспяховых беларускіх бізнесменаў, арышт якога ўскалыхнуў IT-супольнасць не толькі Беларусі, не лічыць сябе вінаватым...

Арышт Віктара Пракапені многія эксперты назвалі "ракавой памылкай" беларускіх сілавікоў, здольнай "зарубіць курыцу, якая нясе залатыя яйкі". Бо ці не адзінай галіной, якая паспяхова развівалася на сусветным узроўні, была IT-індустрыя. А Пракапеня ў ёй – чалавек знакавы, вядомы ва ўсім свеце. Пасля яго арышту IT-бізнес можа проста перадыслацыравацца ў іншыя краіны. І, дарэчы, такі працэс ужоназіраецца.

Следчы камітэт, аднак, настойвае на сваёй праваце.

*"Злачынныя дзеянні Віктара Пракапені нанеслі ўрон дзяржаве ў 12,6 мільярда рублёў",* – заявіў журналістам начальнік аддзела інфармацыі і сувязяў з грамадскасцю Следчага камітэта Беларусі Сяргей Кабаковіч.

Ён паведаміў, што ў дачыненні да бізнесмена распачаты яшчэ дзве крымінальныя справы – паводле арт.243 КК Беларусі (ухіленне ад выплаты падаткаў). Абвінавачанне будзе прад'яўлена пасля таго, як следчыя збяруць усю доказную базу і высветляць сумы.

Прадстаўнік ведамства адзначыў, што Віктар Пракапеня не прызнае сваёй віны і не ідзе на супрацоўніцтва са следствам. *«Пакуль бізнесмен не жадае пакрыць злачынны даход у 12,6 мільярда»,* – дадаў начальнік аддзела.

Пракапеня зараз знаходзіцца ў СІЗА. Між тым гэта адзін з нешматлікіх беларускіх мільянераў, які зарабіў свае капіталы, не прымаючы ўдзелу ў праграмах, якія дазвалялі прысмактацца да дзяржаўнага бюджэту. Рэдкі выпадак!

КОМПЕТЕНТНОЕ МНЕНИЕ

# Страдания и надежды Украины

**(Окончание. Начало на 1-й стр.)**

Российскому народу внушают, что враг – это Запад, США, то есть цивилизованный мир. В стране формируется, давайте прямо скажем, антицивилизация. Примером такой антицивилизации в XX веке была гитлеровская Германия.

Если говорить о том, каким прошедший год был для новой власти, то нельзя не заметить, что Украина добилась значительных дипломатических успехов и международной поддержки и признания. Подписано Соглашение об ассоциации между Украиной и ЕС, ведется подготовка к евроинтеграции.

Таким образом, украинским властям за год с небольшим удалось добиться макроэкономической стабильности и международной поддержки, создать боеспособную армию, сплотить под национальной идеей народ. Согласитесь, что это немало и очень важно для будущего страны.

**– Согласен, результаты налицо. Но, как я понимаю, перед страной стоят такие серьезные вызовы, что нужно предпринимать экстраординарные меры для укрепления государства, повышения эффективности экономики, смягчения социальной напряженности…**

– За год с небольшим к элитам страны пришло понимание, что нужно менять систему управления. Необходим комплексный подход к минимизации угроз украинской государственности. Страна не отказалась от демократического пути развития. Сейчас в Украине разноголосица, немало тех, кто ругает власть, больше всего достается премьеру, президенту. И, что странно, тон задают многие депутаты Верховной Рады, которые, на мой взгляд, совершенно не подготовлены к тому, чтобы представлять высший орган власти. Им кажется, что коррупция не прекращается потому, что президент, премьер и другие руководители страны этого не хотят. Предлагают примитивные решения: сажать в тюрьму, отбирать имущество... Эти люди напоминают большевиков во время гражданской войны и после – горящие глаза, ненависть к успешным согражданам.

Яркий пример того, что из этого может получиться, – Беларусь. У нас тоже пытались сбить недовольство народа созданием всяких разоблачительных и репрессивных комиссий. В итоге Беларусь уже много лет имеет бессменного президента, а борьба с коррупцией продолжается и сегодня. Если брать ее скрытую форму, то этой болезнью у нас поражена вся страна.

Удивительно, но в Киеве депутаты «Народного Фронта» открыто выступают против своего лидера – премьера. Любую возможность набрать политические очки использует фракция «Батькивщина» во главе с Юлией Тимошенко. Она предлагает «правильно» посчитать тарифы и реструктуризировать валютные кредиты, обогреть и накормить всех убогих – только дайте ей власть. Сколько там хитрых, изворотливых проходимцев, рвущихся к власти, подогревающих и использующих в корыстных целях соответствующие настроения!

Идет война, а в это время в центре Киева собираются какие-то толпы, требующие от властей на сегодняшний день невозможного; митингуют военные – тоже что-то требуют. Предыдущие власти сильно потрудились, раздавая пустые обещания, чтобы воспитать общество иждивенцев. Обязательно ли, чтобы при демократии толпы проплаченных и оболваненных людей каждую неделю ставили властям ультиматумы, перекрывали магистрали? Я порекомендовал бы министру МВД Украины пригласить своим заместителем какого-нибудь полковника из МВД Беларуси. У нас сажали людей только за то, что они хлопали в ладоши на центральной площади, а за сжигание шин перед зданием Дома правительства любители этой забавы лет пять шили бы варежки в колонии. И это правильно. Демократия – не вседозволенность и анархия.

Все это я рассказываю, чтобы читатели поняли, на каком фоне приходится работать новым украинским властям. Старая система управления не хочет меняться. Она сопротивляется, при этом используются все методы. С одной стороны, волонтеры, делающие все возможное для снабжения армии; бойцы, отдающие свои жизни за Украину, с другой – паразиты, высасывающие соки из страны.

**– Вы, чувствуется, внимательно отслеживаете события, происходящие в Украине. Как ее власти пытаются изменить ситуацию, укрепить государство?**

– Мне лично нравится подход Петра Порошенко к реформированию государственных институтов, всей системы государственности. Создан Национальный Совет реформ, в состав которого вошли бывшие премьер-министры ряда стран. Возглавил Совет экс-президент Грузии М.Саакашвили. Все это время идет кропотливая интеллектуальная работа над созданием законодательной основы будущих преобразований.

В ближайшее время будут приняты поправки к Конституции по децентрализации власти, значительные полномочия и деньги будут переданы местным органам власти, идет административная реформа, за основу которой взят польский опыт. При такой системе очень затруднительно будет создать региональные мафиозные структуры при власти. Бюджеты будут прозрачны, украсть из них деньги станет сложнее. Люди на местах сами будут решать, как им жить и как обустраивать свою территорию.

Началась реформа в МВД Украины. Принят целый пакет законопроектов на этот счет. Создается новая полиция. В Киеве приступили к выполнению своих обязанностей 2000 полицейских, отобранных по конкурсу. Они заменили коррупционную ДАИ и патрульную службу. 70 процентов этих молодых людей имеют высшее образование, около 30 процентов – женщины. Готовятся кадры на таких же принципах и в других регионах. Экипированы и оснащены эти подразделения по самым современным требованиям. Создаются также антикоррупционное бюро, руководитель которого избран по конкурсу, специальная антикоррупционная прокуратура. Начались аресты высоких чиновников, прокуроров и судей, погрязших в коррупции.

Начинается реформа прокуратуры, в том числе замена ее сотрудников новыми людьми, которые пройдут после проведения открытых конкурсов. Будет сокращена численность этой структуры. Идет подготовка к реформе судебной системы, юстиции в целом, системы здравоохранения.

Михаил Саакашвили возглавил Одесскую область, тем самым реализуется пилотный проект реформирования местного самоуправления. И в случае успеха этот опыт будет перенесен в другие регионы.

Вместе с тем наблюдается бессистемность в работе Верховной Рады. Депутаты стремятся зарегистрировать какие-то законопроекты, без чего, по их мнению, Украине будет плохо. Как мне кажется, от такой практики больше вреда, чем пользы.

Более системно, на мой взгляд, нужно проводить реформу экономики. Правительством А. Яценюка, как я уже говорил, достигнута макроэкономическая стабилизация, сокращено количество налогов, запрещены проверки, девальвация гривны способствует увеличению экспорта, оздоровлению экономики предприятий, повышены тарифы на энергоносители, обеспечена диверсификация поставок газа в страну. Газпром уже не может диктовать свои условия и быть политическим инструментом в руках властей России. Принят закон о приватизации в 2015 году 302 государственных предприятий, которые сегодня используют как дойных коров для обогащения руководителей этих предприятий и коррумпированных чиновников.

Надо сказать, что вокруг темы тарифов и предстоящей приватизации развернулась самая настоящая борьба. Тимошенко и ее единомышленники считают, что тарифы завышены и их надо снизить за счет добычи газа национальными компаниями. Их оппоненты справедливо полагают, что пора прекращать отапливать небо (до 70 процентов потребителей газа не имеют счетчиков), нормативы потребления завышены, что создает благоприятную почву для коррупции; льготирование всех потребителей газа и отапливание воздушного пространства за счет национальных поставщиков ставит крест на независимости Украины от поставок российского газа. Кто же будет инвестировать в отрасль, цену на продукцию которой, в данном случае газ, будет устанавливать Юля или Оля, и где будут сохранены старые коррупционные схемы? Тем более что нормы потребления льготированного газа установлены в объеме 200 куб. метров в месяц, что вполне достаточно для большинства потребителей. Для нуждающихся утвержден механизм субсидий. Предполагается установить рынок газа и электроэнергии так, как это сделано в Германии.

Тарифы, покрывающие затраты на поставку газа, и рынок газа ликвидируют коррупцию в этой сфере, позволят сэкономить стране миллиарды долларов. «Защитники трудящихся» делают вид, что не понимают этого. Яценюк, твердо отстаивая позицию правительства по данному вопросу, по моему мнению, сжег себя как политический деятель. Он, по сути, пожертвовал собой, так как это ключевой момент реформ.

Противники приватизации в общем не возражают против ее проведения, но убеждают, что сейчас делать это несвоевременно. Цены на объекты низкие. Это значит, что есть еще время доить предприятия, а доить научились хорошо. У меня перед глазами ситуация в Беларуси. Также в свое время было заявлено, что приватизация преждевременна из-за низких цен. И что сейчас? Многие из этих предприятий и гроша ломаного не стоят, их не могут продать даже за одну базовую величину (12 долларов США).

**– Василий Михайлович, что бы вы – опытный промышленник, грамотный экономист – посоветовали правительству Украины?**

– Если честно, то я им не могу ничего советовать. Это их внутреннее дело, что делать и как проводить реформу экономики. Могу только сказать, что делал бы я, если бы оказался каким-то чудом на месте того же Яценюка.

В первую очередь я довел бы тему тарифов и создания рынка газа и электроэнергии до логического завершения. Второе – провел бы приватизацию, кроме стратегических объектов, в максимально возможное короткое время, что исключило бы коррупционные схемы. Я согласен с Кахой Бендукидзе, который в свое время сказал: надо продать все, кроме совести.

Сейчас из-за потери рынков освободилось много квалифицированных людей, многие ищут работу за рубежом, растет социальная напряженность. В этих условиях я безотлагательно инициировал бы принятие закона об освобождении на несколько лет всех вновь зарегистрированных индивидуальных предпринимателей, предприятий, учредителями которых являются физические лица, от налогов, кроме социальных, о расширении применения фиксированного налогообложения малого бизнеса. Налоги от малого бизнеса предложил бы оставлять регионам, в которых они зарегистрированы. Это нужно делать для заинтересованности регионов в развитии бизнеса. В компетенцию регионов передал бы право устанавливать ставки налогов, стоимость патентов для малого бизнеса.

Важным также считаю оградить малый бизнес от какого-либо административного вмешательства, от излишней бухгалтерии. Ввести систему контроля за правильностью исчисления налогов, аналогичную польской. Главное – дать инициативным людям почувствовать себя гражданами, и тогда страна на глазах начнет преображаться.

Я серьезно подумал бы, как развить военно-промышленный комплекс страны. Вряд ли было бы оправданным не использовать такую великолепную школу для увеличения экспорта.

И последнее. Дороги. На мой взгляд, заняться сейчас строительством и ремонтом дорог крайне важно для функционирования и развития смежных отраслей, снижения безработицы, развития придорожного сервиса. Несмотря на все трудности, надо искать такую возможность, используя в том числе и частный капитал.

В этом Беларусь могла бы оказать Украине значительную помощь, в том числе поставками строительно-дорожной техники, которой в Украине нет, цемента. Белорусы могли бы построить «под ключ» значительные участки украинских дорог.

Мне представляется, что в Украине впервые с момента независимости начата системная работа по созданию сильного процветающего государства. Важно довести начатые преобразования до необратимого состояния, не дать старой системе, людям, которым было комфортно в той системе, взять реванш. Если, не дай Бог, это произойдет, то это будет величайшая катастрофа.

**– Как вы думаете, сколько понадобится времени, чтобы наступил переломный момент в развитии Украины?**

– Я уже говорил, какая разноголосица царит в украинском обществе, как умело подогреваются настроения и используются любые поводы для нагнетания страстей. У людей старой системы есть все для реванша: деньги и пока еще ограниченная, но власть. Любой внутренний раздрай будет использован ими на свою корысть. Российское телевидение ведет системную информационную войну против Украины, распространяет всяческие провокационные измышления. Отдельные убежавшие в Москву казнокрады на федеральных российских каналах предрекают Украине крах, не гнушаясь ничем, даже угрозами.

Но, к счастью, в Украине много и других людей: умных, красивых, мужественных, стремящихся отстоять и преобразовать свою страну, сделать ее европейским государством. Мне представляется, что нужно хотя бы еще года два, чтобы украинцы почувствовали изменения в лучшую сторону. Это, конечно же, при условии наличия политической воли и мужества у украинского руководства, замораживания конфликта на Донбассе и согласия в украинском обществе.

Я бы пожелал украинскому народу и его руководству успехов в начатых преобразованиях. Судьба Беларуси связана с судьбой Украины. Мы не хотим, чтобы в нашу страну пришли войска чужого государства защищать «русский мир» от белорусских «бандеровцев», убивать нас и наших детей.

**– Спасибо, Василий Михайлович, за интересные, глубокие размышления. Полагаю, что они заставят задуматься многих ваших оппонентов, тех, кто, поддавшись глупой официальной пропаганде как Москвы, так и Минска, примитивно трактует украинские события.**

**Вопросы задавал Арсений КОВАЛЬЧУК.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



# Если бы я был президентом…

На страницах «Народной Воли» была опубликована статья жителя Гродно Ивана Мелеховца «Калі б я быў прэзідэнтам» ("НВ", № 55 от 17 июля 2015 г.). В ней он высказывает ряд соображений о реформировании нашей жизни. Он прав в том, что настало время для кардинальной смены политики, а для этого нужна новая команда руководящих кадров. Еще Иван Мелеховец предлагает ввести в газете рубрику, в которой читатели могли бы высказывать свои мысли об оптимизации управления страной.

В самом деле: почему бы не создать такую скарбницу идей? Пусть люди пишут, как нам жить дальше, какие проводить преобразования. В результате общество станет более заинтересованным в своем будущем. Вот и у меня появилось желание поделиться с читателями «Народной Воли» мыслями о том, как преобразовать страну на современный лад, как задать ей новый импульс развития, как вернуть авторитет и международное признание.

## 10 шагов

Погружаясь в мифический сон, я называю самые важные шаги, которые надо осуществить для возрождения Беларуси как демократического социального правового государства.

**Первый шаг:** восстановить действие отмененной Конституции 1994 года.

**Второй шаг:** восстановить деятельность распущенного Верховного Совета 13-го созыва с теми депутатами, которые остались верны Конституции 1994 года.

**Третий шаг**: подготовить необходимые изменения и дополнения в Конституцию 1994 года и утвердить их предварительно на Всебелорусском съезде народных представителей, а также утвердить временный состав правительства, Центризбиркома, Национального банка, высших судов, прокуратуры, следствия, руководителей регионов.

**Четвертый шаг:** провести досрочные выборы парламента (Верховного Совета 14-го созыва), местных представительных органов всех уровней.

**Пятый шаг**: на заседании демократически избранного парламента обсудить вопрос о новой редакции Конституции 1994 года. Возможно, следует упразднить должность президента как неоправдавшую себя и излишне обременительную для бюджета.

**Шестой шаг:** на основе новой редакции Конституции сформировать постоянно действующую систему органов власти, а также местного самоуправления, провести реформу административно-территориального устройства страны.

**Седьмой шаг:** принять Закон о люстрации государственных служащих, Закон о реабилитации жертв политических репрессий, завершить расследование фактов исчезновения политиков и иных людей.

**Восьмой шаг:** сократить в разы государственный аппарат, в том числе силовые структуры, упразднить различные военизированные формирования.

**Девятый шаг:** пересмотреть действующее законодательство страны, в том числе международные договоры на предмет соответствия новой редакции Конституции. Отменить смертную казнь как вид наказания, ввести суд присяжных заседателей по делам, где обвиняемый не признает себя виновным в совершении преступления. Учредить должность Уполномоченного по правам человека.

**Десятый шаг:** вступить в Совет Европы и ратифицировать основные европейские акты в области прав человека. В то же время поставить вопрос о выходе из Организации Договора коллективной безопасности, Евразийского экономического союза, «союзного государства» России и Беларуси.

Список «шагов», на мой взгляд, можно продолжить, но и так понятно, в каком направлении должна развиваться новая Беларусь. Главной задачей будет сохранить суверенитет страны и преодолеть экономическую и иную зависимость от Российской Федерации. В этом отношении нам может помочь закрепленный в Конституции принцип нейтралитета во внешней политике.

## А как?

Не секрет, что Беларусь, как и другие страны, развивается по эволюционному пути, переходя от одного этапа развития к другому. Сейчас мы наблюдаем экономический коллапс, деградацию политических институтов, упадок в духовной сфере. Да и нынешние выборы показывают, что действующая система власти начинает вырождаться.

В то же время следует открыто признать, что сейчас в Беларуси с точки зрения конституционной законности нет легитимных органов власти. Последним таким органом был Верховный Совет Республики Беларусь 13-го созыва, незаконно распущенный после 24 ноября 1996 года. Он продолжал свою деятельность в «усеченном» составе, то есть в составе депутатов, которые не перешли на службу в Палату представителей. Но по прошествии времени они прекратили свою деятельность.

На мой взгляд, именно этот «осколок» Верховного Совета 13-го созыва (35–40 человек) может стать фундаментом для объединения демократических партий, движений, представителей региональных структур. Вместе они могут стать полноценным представительным органом, который может принять судьбоносные решения.

## Без президента

Некоторые юристы считают, что после ноябрьского референдума 1996 года А.Г.Лукашенко утратил право выдвигаться кандидатом в президенты. На мой взгляд, для такой позиции имеются достаточные основания. Голосование по вопросу внесения изменений и дополнений в Конституцию 1994 года было проведено вопреки решению Конституционного суда от 4 ноября 1996 года. Предложенные «поправки» в Конституцию могли иметь только рекомендательный, а не обязательный характер. Вместо этого была принята новая редакция Конституции с неограниченными полномочиями президента – главы государства.

По сути, под видом референдума произошел захват власти неконституционным путем. До настоящего времени эта власть, я считаю, находится в незаконном «владении». Периодически проводимые президентские, как и парламентские, выборы не добавляют легитимности их избранникам. И не только потому, что выборы проходят с массой нарушений, но и потому, что избранные лица не имеют реального народного доверия.

Получается парадокс: в стране есть должность президента, но, если исходить из буквы закона, нет легитимного президента. И так будет продолжаться до тех пор, пока не будет восстановлена Конституция 1994 года и не будет сформирован законный парламент – Верховный Совет Республики Беларусь 14-го созыва.

Что же касается должности президента, то, я считаю, от нее можно вовсе отказаться. Во-первых, должность президента не вписывается в систему разделения властей, и президент вынужден постоянно вмешиваться в дела других ветвей власти. Во-вторых, эта должность является обременительной для государства. Сколько нужно обслуживающего персонала, охраны, транспортных средств и прочего! В-третьих, основные функции президента можно просто поручить председателю парламента (такая практика раньше имела место в Беларуси при С.С.Шушкевиче, М.И.Грибе).

Кто-то скажет: а как же мы будем обходиться без президента? Что о нас будут говорить в других странах? Ответ простой: мы сами определяем свое государственное устройство. В Конституции может быть записано, что председатель парламента по должности выполняет функции главы государства. Тогда в стране не будет «главных» лиц. Все будут равны в своем достоинстве и правах. Как это имеет место во многих европейских странах.

**Михаил ПАСТУХОВ, гражданин Республики Беларусь.**

ГУЧНАЯ СПРАВА



# Адгуляў?

*Затрыманы былы генеральны дырэктар хакейнага клуба «Дынама-Мінск».*

Спачатку з’явілася інфармацыя ў шэрагу інтэрнэт-парталаў, што генеральны дырэктар мінскага "Дынама" **Максім Суботкін** *(на фота)* пакідае клуб. А паводле некаторых звестак, ён і наогул *"затрыманы пасля масавых праверак ДФР, АБЭЗ і шэрагу допытаў сведак у Мінску і Бабруйску".*

Праўда, журналістам удалося датэлефанавацца да спадара Суботкіна, але ад каментарыяў той адмовіўся. Усе нашы спробы высветліць сітуацыю ў клубе таксама яснасці не дадалі.

*"Нічога пракаментаваць не можам",* – коратка адказвала прэс-служба "Дынама", хоць, магчыма, у клубе проста вырашылі не выносіць смецце з хаты. Тым больш што менавіта на 20 ліпеня было запланавана і пасяджэнне назіральнай рады ЗАТ "ХК Дынама-Мінск" пад старшынствам **Ігара Шуневіча**, які да таго ж і міністр унутраных спраў.

У той жа дзень, калі адбылося пасяджэнне, сайт клуба паведаміў, што *«па рашэнні агульнага сходу акцыянераў скасаваны кантракт з генеральным дырэктарам клуба Максімам Суботкіным. В.а. генеральнага дырэктара прызначаны намеснік генеральнага дырэктара па спорце – генеральны менеджар* ***Уладзімір Беражкоў****».*

А на наступны дзень на свет з’явілася яшчэ адно паведамленне – на сайце Следчага камітэта:

"Следчым камітэтам распачата крымінальная справа ў дачыненні да былога генеральнага дырэктара хакейнага клуба «Дынама-Мінск». Ён падазраецца ў злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі. Крымінальная справа заведзена па выніках аператыўна-вышуковай дзейнасці Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС Рэспублікі Беларусь. Падазроны затрыманы, з ім працуюць следчыя".

Падрабязнасці справы пакуль не агалошваюцца, але для Максіма Суботкіна гульня ў хакей, хутчэй за ўсё, закончылася...

# Спазніўся…

*Цэнтрвыбаркам не зарэгістраваў ініцыятыўную групу Віктара Талмачова, які збіраўся "заняцца ў краіне стварэннем Міністэрства авіяцыі".*

Віктар Талмачоў заявіў, што прадстаўляе ветэранскі рух, і добраахвотны рух, які на грамадскіх пачатках дапамагае ўладзе.

Праўда, яго ініцыятыўную групу ў Цэнтрвыбаркаме не зарэгістравалі. Патлумачылі тым, што спадар Талмачоў несвоечасова падаў дакументы ў ЦВК.

*"У прэзідэнты ішоў, каб старыць у краіне моцнае Міністэрства авіяцыі, а таксама заняцца іншымі актуальнымі пытаннямі,* – патлумачыў "Народнай Волі" адстаўны прэтэндэнт. – *Не пусцілі".*

ІНВЕСТЫЦЫІ

# Амаль два мільёны еўра… на "Пепсі"

*На ААТ "Лідскае піва" прыйшоў замежны партнёр. Цяпер на беларускім прадпрыемстве будуць разліваць безалкагольныя напоі сусветна вядомай маркі Pepsico.*

Спачатку замежны партнёр беларусаў правёў аўдыт "Лідскага піва", затым адбылася мадэрнізацыя беларускага прадпрыемства.

– Не без гонару магу заўважыць, што безалкагольны напой Pepsi, які будзе вырабляцца на нашым канвееры, адпавядае ўсім сусветным стандартам, – паведаміў генеральны дырэктар "Лідскага піва" **Андрыус МІКШЫС.** – Для першай партыі напою, якая сышла з канвеера 10 ліпеня, выкарыстоўвалася замежная сыравіна, зараз жа мы заключылі дамовы на пастаўку неабходных кампанентаў выключна з беларускімі вытворцамі. Напрыклад, вада, якая выкарыстоўваецца для вытворчасці Pepsi, з артэзіянскай свідравіны на тэрыторы "Лідскага піва", свой жа цукар і вуглякіслы газ. Адзінае, што не беларускае, дык гэта "сакрэтны" інгрэдыент, які надае напою непаўторны смак. Ён завозіцца ў Беларусь з-за мяжы.

Вытворчасць Pepsi ў Лідзе будзе пастаянна кантралявацца прадстаўнікамі кампаніі – уладальніка брэнда.

– Адзначу, што мадэрнізацыя, звязаная з прыходам кампаніі Pepsico ў Ліду, дазволіць нам выкарыстоўваць тэхналогію вытворчасці і для нашых уласных прадуктаў, – гаворыць гендырэктар прадпрыемства Андрыус Мікшыс. – Увогуле мы інвеставалі ў мадэрнізацыю вытворчасці 1.700.000 еўра. А пра лічбы, якія фігуруюць у нашым агульным кантракце з Pepsico, я нічога казаць не магу, паколькі гэта тычыцца не толькі нашага прадпрыемства.

Спецыялісты кажуць, што ўкладзеныя ў вытворчасць сродкі акупяцца цягам пяці гадоў.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ПРЫГАВОР

# Па-за футболам

У Мінску лідар каляфутбольнай групоўкі і шэраг яе ўдзельнікаў прыгавораны да доўгіх тэрмінаў пазбаўлення волі за хуліганства і прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

Як паведамляе МУС Беларусі, каля станцыі метро «Грушаўка» позним вечарам 22 жніўня мінулага года пяцёра невядомых збілі двух мінчан. Наўмысна, з хуліганскіх меркаванняў, маладыя людзі ва ўзросце 24–26 гадоў нанеслі ахвярам цяжкія цялесныя пашкоджанні з прымяненнем тэлескапічных дубінак.

Супрацоўнікі галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС устанавілі, што да ўчынення гэтага злачынства маюць дачыненне члены нефармальнага маладзёжнага каляфутбольнага руху «Нававілка». Гэтае аб’яднанне ўваходзіць у адну з фанацкіх плыняў футбольнага клуба «Дынама» (Мінск) і прытрымліваецца прынцыпаў неанацызму.

У дачыненні да зламыснікаў была распачата справа па прыкметах складу злачынстваў па ч.3 арт.339 КК (асабліва злоснае хуліганства) і ч.2 арт.147 КК (наўмыснае прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў), абрана мера стрымання ў выглядзе ўтрымання пад вартай.

21 ліпеня паводле прыгавору суда Маскоўскага раёна Мінска лідару групоўкі прызначана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 10 гадоў, тром актыўным удзельнікам па 9 гадоў і аднаму тры гады.

СТРАТЫ

# Памёр былы міністр фінансаў Беларусі Андрэй Харкавец



Пасля працяглай хваробы памёр былы міністр фінансаў Беларусі Андрэй Харкавец. На 52-м годзе жыцця. Паніхіда пройдзе сёння, 24 ліпеня, у будынку Канцэртнай залы «Мінск». Пахаваюць Харкаўца на грамадзянскіх могілках пасёлка Ждановічы.

Андрэй Харкавец – ураджэнец Мінска. Ён скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі, Акадэмію кіравання пры прэзідэнце. З 1985-га працаваў у Міністэрстве фінансаў, пачынаў працоўны шлях старшым эканамістам. Міністрам фінансаў быў са жніўня 2008 года (змяніў Мікалая Корбута). 21 ліпеня мінулага года Аляксандр Лукашэнка вызваліў Андрэя Харкаўца ад пасады ў сувязі з выхадам у адстаўку.

Была неафіцыйная інфармацыя пра тое, што Харкавец цяжка хварэў, праходзіў лячэнне ў адной з еўрапейскіх краін. З-за гэтага яшчэ да адстаўкі фактычна перастаў выконваць абавязкі міністра.

СЕНСАЦЫЯ



# Скарына – не першадрукар?

*У архівах Кіева-Пячорскай лаўры знойдзены дзіўны дакумент*

«Ну што, спадарства, час для сенсацыі? Скарына не першадрукар?» – з такім інтрыгуючым подпісам дырэктар музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў размясціў на сваёй старонцы ў інтэрнэце адсканіраваную старонку рэестра кніг, складзенага ў XVIII стагоддзі манахамі Кіева-Пячорскай лаўры.

У ім указана неверагоднае! Што ў царкве Пакрова Святой Багародзіцы знаходзіўся "Апостал", надрукаваны ў Магілёве ў 1504 годзе – іншымі словамі, на 13 гадоў раней, чым скарынаўскі "Псалтыр"!

"Калі ёсць адзінкавая ўзгадка аб чым-небудзь, трэба яе верыфікацыя, значыць, удакладненне з якой іншай крыніцы. Мы звярнуліся да архівістаў, гісторыкаў, каб яны паведамілі нам, калі знойдуць што-небудзь, звязанае з гэтым фактам. Не выключана, што хтосьці раней бачыў інфармацыю наконт магілёўскага «Апостала», але адкладваў яе ў бок, лічачы несур’ёзнай або памылковай. Пакуль што гэтая інфармацыя для нас фантастычная. Але калі яна пацвердзіцца, то можа змяніць нашу ўласную гісторыю», – кажа Аляксей Бацюкоў.

